# 27 ліпеня — День незалежнасці Беларусі. Віншуем вас, суайчыннікі!



Жыве Беларусь!


# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№146 (659) 24 ліпеня 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 502252 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Начальник Главного штаба Вооруженных Сил Беларуси генерал-лейтенант Николай Чуркин принял делегацию министерства обороны КНР во главе с начальником управления внешних связей генерал-майором Фу Дининoм, которая находится в нашей республике с официальным визитом.**

Обе стороны высказали уверенность в том, что развитие отношений между Вооруженными Силами Беларуси и Китайской Народной Республикой послужит делу укрепления дружеских отношений между нашими народами.

❑

**В Могилев прибывает интернациональный строительный отряд студенческой молодежи из стран Западной Европы и Канады.**

На протяжении трех недель ребята будут участвовать в реставрации костела Святого Станислава.

❑

**Управа Белорусского народного фронта решила создать оргкомитет по празднованию 5 сентября Дня воинской славы.**

Провести его предполагается как фестиваль. Управа БНФ обратилась к другим демократическим организациям с призывом присоединиться к работе организационного комитета.

### Хасбулатов против... Совета Безопасности ООН

**Выступая в парламенте, Р.Хасбулатов указал на поддержку, которую Совет Безопасности ООН оказал Украине в вопросе о статусе Севастополя после того, как Верховный Совет России провозгласил город российской территорией.**

Одновременно спикер парламента осудил российское правительство за слишком мягкое, по его выражению, отношение к Западу и за то, что оно допускает, как считает Хасбулатов, ослабление позиции Российской Федерации на международной арене.

### Суд над вице-премьером?

**По просьбе Генерального прокурора России В.Степанкова Верховный Совет дал вчера согласие на возбуждение уголовного дела в отношении первого вице-премьера России В.Шумейко.**

Он обвиняется, в частности, в санкционировании передачи десятков миллионов долларов иностранным фирмам.

**Радио "Свобода".**

### Первый памятник последнему императору

**В день 75-летия расстрела последнего российского императора и его семьи в Царском Селе был открыт первый в России памятник Николаю Второму — бронзовый бюст.**

Представители Романовского фонда заявили, что в будущем здесь появится мемориал: будет восстановлен один из самых больших в России соборов — Федоровский, а в Александровском дворце, где Николай с семьей пребывали после отречения от престола, откроется музей.

**Михаил КАРЧИК.**

### На белорусском отделении — конкурс

**Сенат Вильнюсского педагогического университета поставил условие для дальнейшего существования белорусского отделения — средства ищите сами.**

Реальным гарантом финансирования выступила белорусская эмиграция. Это позволило своевременно объявить набор и провести вступительные экзамены. На белорусское отделение, которое работает уже третий год и которое в этом году сенат университета предполагал закрыть, на двенадцать мест было подано 19 заявлений.

**Андрей КОРСАК.**

### Приговор убийце

**В Брестском областном суде завершилось рассмотрение дела Тенгиза Кутарбы, совершившего в марте нынешнего года в городе над Бугом убийство девятиклассницы.**

На первом же заседании обвиняемый попросил перенести судебное разбирательство в другой город, где бы он не испытывал давления со стороны общественности. Но ходатайство суд отклонил. А вскоре был оглашен и приговор: высшая мера наказания — расстрел.

**Олег СУПРУНЮК.**

### Первый блин оказался комом. Взлетит ли второй?

**Запуск американского космического корабля многоразового использования "Дискавери" будет осуществлен в субботу, 24 июля, с космодрома на мысе Канаверал, объявило Национальное управление по аэронавтике и исследованию космического пространства.**

Это будет вторая попытка вывести "Дискавери" на околоземную орбиту. Запланированный на прошлую субботу полет был отложен за несколько минут до старта из-за неисправности в электронном блоке механизма отделения корабля от стартовой площадки. Эта неполадка, по мнению экспертов, могла привести к катастрофе "челнока" сразу после старта.

**Михаил КОЛЕСНИЧЕНКО.**

### Праздник начинается сегодня

**27 июля Беларусь будет в третий раз праздновать День независимости.**

Как сообщили в управлении культуры Мингорисполкома, 24 июля в Государственной филармонии в 17.00 состоится торжественное заседание, участие в котором примут, как планируется, все "первые лица" государства и города, а также праздничный концерт. Непосредственно 27 июля состоится торжественное возложение цветов сначала — в 10.00 — к обелиску на площади Победы, а потом в Хатыни, Куропатах и на Кургане Славы. Намечен и официальный прием.

**Константин ГЕНИК.**

### Вот это и есть демократия!

**Руководство ОДПБ имеет намерение подать иск в суд в связи с обвинением его в учинении непристойных дел, в частности в получении без очереди благоустроенных квартир, сотрудничестве с коммерческими структурами и т.д.**

С разоблачением на эту тему выступила в "Знамени юности" управляющий делами и главный бухгалтер ОДПБ Валентина Зайковская. Заметка "Скандал в партии демократов" публиковалась и в "Советской Белоруссии".

Как заявил председатель Объединенной демократической партии Беларуси Александр Добровольский, предъявленные обвинения — ложь. Так, к сожалению, делается политика, отметил он.

**Лариса КЛЮЧНИКОВА.**

### Лидчане праздники любят...

**Город Лида с нетерпением ждет праздника, который пройдет в воскресенье, 25 июля, накануне Дня независимости Беларуси.**

В этот день состоится открытие памятника Ф.Скорине. Выступят профессиональные артисты из Минска, Орши, Лепеля, любители живописи познакомятся с творчеством многих художников.

**Тадеуш ЧЕРНОУС.**



**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Давайте уточним*

### Акционеры и вкладчики могут не беспокоиться

Неделю назад в "Народной газете" не по вине редакции в материале, посвященном борьбе с экономическими преступлениями, была опубликована информация о том, как аферист из ближнего зарубежья за взятки получил крупные ссуды в "Белпромстройбанке". В действительности дело обстояло иначе: усилиями правоохранительных и финансовых органов утечку крупных денежных средств из республики удалось предотвратить. Взяточников среди работников "Белпромстройбанка" не оказалось. Так что акционеры, вкладчики и рядовые клиенты банка могут быть спокойны за свои вклады и дивиденды: один из богатейших и солиднейших банков Беларуси остается надежным партнером и может, как показала практика, не только стабильно работать в условиях инфляции, но и уверенно противостоять во взаимодействии с компетентными органами самым изощренным мошенникам.



*Беларусь — ЗША*

## Прэзідэнт ЗША Клінтан прыняў Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі Шушкевіча. Прынята дэкларацыя аб адносінах паміж дзвюма краінамі

У чацвер у Белым доме адбылася сустрэча прэзідэнта ЗША Біла Клінтана са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам, які знаходзіцца тут з афіцыйным візітам. Я хацеў бы публічна падзякаваць кіраўніку Беларусі за падтрымку яго краінай рэжыму нераспаўсюджання зброі, Дагавора СНУ-1, заявіў прэзідэнт ЗША перад пачаткам гутаркі. "У нас будзе добрае партнёрства. Я чакаю, што яно будзе развівацца", — сказаў прэзідэнт. Я вельмі высока цаню той факт, што Беларусь прыняла на сябе абавязацельства стаць бяз'ядзернай, заявіў Б.Клінтан, адзначыўшы, што "гэта шмат значыць для Злучаных Штатаў і ўсяго свету".

У ходзе праведзенай затым гутаркі, гаворыцца ў распаўсюджанай тут заяве Белага дома, прэзідэнт Клінтан "адзначыў, што Беларусь стала першай з новых незалежных дзяржаў былога Савецкага Саюза, якая поўнасцю выканала свае абавязацельствы па Лісабонскаму пратаколу, ратыфікавала Дагавор СНУ-1 і далучылася да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Прэзідэнт ацаніў гэты мужны крок, заявіўшы, што пад кіраўніцтвам Старшыні Шушкевіча Беларусь ідзе наперадзе ў глабальных намаганнях збавіць чалавецтва ад пагрозы ядзернага знішчэння". Прэзідэнт ЗША падкрэсліў зацікаўленасць яго краіны ў расшырэнні эканамічных сувязей з Беларуссю. У заяве Белага дома адзначаецца, што гутарка з С.Шушкевічам стала для прэзідэнта Клінтана яго першай афіцыйнай сустрэчай у ЗША з кіраўніком адной з новых незалежных дзяржаў былога СССР.

Праведзеная сустрэча кіраўнікоў дзвюх краін, гаворыцца ў прынятай сумеснай дэкларацыі аб адносінах паміж ЗША і Беларуссю, "прадэманстравала важнасць, якую Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь надаюць расшырэнню і паглыбленню сваіх адносін". Дзве краіны, адзначаецца ў дакуменце, падкрэслілі сваю рашучасць актыўна дзейнічаць для прадухілення распаўсюджвання зброі масавага знішчэння і звязаных з ёй тэхналогій. Яны выказалі жаданне "садзейнічаць кантактам паміж адпаведнымі афіцыйнымі асобамі ўрадаў з мэтай развіваць ваеннае супрацоўніцтва і расшыраць дыялог па пытаннях бяспекі, якія маюць узаемную цікавасць". ЗША заявілі, што гатовы цесна супрацоўнічаць з Беларуссю ў вырашэнні праблем, звязаных з забеспячэннем яе нацыянальнай бяспекі. Дзве краіны таксама дагаварыліся супрацоўнічаць у "зняцці ўсіх непатрэбных бар'ераў, што перашкаджаюць двухбаковаму гандлю і інвестыцыям, і закончыць падрыхтоўку да падпісання дагавора аб узаемнай абароне інвестыцый". ЗША і Беларусь дагаварыліся таксама супрацоўнічаць у галіне сельскай гаспадаркі, медыцыны, энергетыкі, культуры, іншых сферах.

Раней у той жа дзень С.Шушкевіч нанёс візіт у Пентагон і сустрэўся з міністрам абароны ЗША Лесам Эспінам. Суправаджаючы кіраўніка Беларусі міністр абароны краіны Павел Казлоўскі і кіраўнік ваеннага ведамства ЗША Лес Эспін падпісалі тры пагадненні, па якіх ЗША выдзеляць Беларусі 59 мільёнаў долараў на садзейнічанне ў дэмантажы былых савецкіх ядзерных узбраенняў. Дакументы прадугледжваюць таксама садзейнічанне ЗША Беларусі ва ўмацаванні рэжыму нераспаўсюджання ракетнай тэхналогіі, у аздараўленні навакольнага асяроддзя ў раёне ліквідуемых ракетных установак, у будаўніцтве жылля і перападрыхтоўцы звальняемых ваеннаслужачых ракетных войск. Агульная сума садзейнічання ЗША Беларусі ў розных галінах складае цяпер 75 мільёнаў долараў.

У чацвер С.Шушкевіч меў сустрэчу са спікерам палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША Томасам Фолі. Адбыліся таксама гутаркі з дырэктарам-распарадчыкам Міжнароднага валютнага фонду Мішэлем Камдэсю, членамі кіраўніцтва Сусветнага банка.

**Ігар БАРСУКОЎ, ІТАР—ТАСС.**

***Тэкст дэкларацыі аб адносінах паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларусь і рэпартаж аглядальніка "Народнай газеты" П.Стасевіча, які знаходзіцца ў Вашынгтоне, друкуюцца на 3-й старонцы.***

*Роздум*

## Баліць сэрца

**Два колеры, як колісь спявалася ў вядомай песні, напаўняюць гэты дзень. Ружовы як сімвал радасці з нагоды выдатнага гістарычнага шанца зноў "людзьмі звацца" ў незалежнай дзяржаве і чорны, журботны як трывожнае папярэджанне, што ў любы час цёмныя сілы могуць задушыць нашу яшчэ кволую птушку-свабоду.**

**Так, будуць у гэты дзень шчырыя ўсмешкі і вялікая радасць, будуць іграць музыка і гучаць песні... Дзень такі! І настрой таксама!**

**Але будзе і другое. Роздум аб жыцці і будучыні. А ён выклікае не толькі ружовыя спадзяванні, але і балюча апякае сэрца і душу трывогай за Бацькаўшчыну. Мы бачым, як гуртуюцца злыя сілы, як яны ненавідзяць нашу свабоду, нашу мову і гісторыю, як ужо не саромеюцца і нават не баяцца адкрыта змагацца супраць беларускай дзяржавы, за аднаўленне былой імперыі, каб зноў накінуць на паслухмянага беларуса цяжкі хамут і запрэгчы яго ў чужы воз. Ужо дайшло да таго, што адкрыта дабіваюцца, каб адправіць нашых дзяцей на смерць у "гарачыя" кропкі за чужыя інтарэсы.**

**Падумай аб гэтым, беларус! Падумай, пакуль не позна. Да такога роздуму запрашаюць шматлікія пісьмы тваіх суайчыннікаў, якія ідуць у рэдакцыю і якія мы рэгулярна публікуем на старонках газеты. Сёння вашай увазе прапануем артыкул доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча.**

## Для нашага народа гэта найвялікшае свята!

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, доктар гістарычных навук, прафесар**

27 ліпеня — День незалежнасці Беларусі. Але што гэты дзень значыць для народа нашай рэспублікі? Ці былі ў гісторыі Беларусі падобныя даты? Як сустракаюць аналагічныя святы іншыя дзяржавы?

Давайце паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.

Гэты дзень ужо трэці год лічыцца для беларускага народа святам. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет яшчэ тады Беларускай ССР абвясціў дэкларацыю аб незалежнасці, у якой даў праграму, як дамагацца незалежнасці, якімі ўмовамі карыстацца, каб дабіцца гэтага, і што рабіць далей. Крыху болей чым праз год — у жніўні 1991-га — гэтая дэкларацыя была аб'яўлена спачатку канстытуцыйнай, гэта значыць, атрымала сілу канстытуцыйнага закона, а ў верасні таго ж года былі прыняты яшчэ і сцяг беларускі, і герб. Карацей кажучы, мы атрымалі знешнія формы нашай незалежнасці. Таму для ўсіх патрыятычна настроеных людзей Беларусі, не толькі для беларусаў, але і для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, гэты дзень па-сапраўднаму святочны. І нездарма Вярхоўны Савет рэспублікі абвясціў яго нерабочым днём. Праўда, з побытавага пункту гледжання гэта просты летні дзень. Многія ў адпачынку і не вельмі звяртаюць увагу на свята. Бо яшчэ не ўсе разумеюць, што значыць яно для Беларусі. Шмат людзей старэйшага ўзросту жыве яшчэ менталітэтам Савецкага Саюза. Што для іх незалежнасць — была Беларусь і ёсць Беларусь, толькі вонкава адрозніваецца атрыбутамі дзяржаўнай улады. Шмат людзей — чыноўніцтва, армейскія генералы, частка афіцэрства, асабліва прыехаўшыя з Расіі, для якой Беларусь або чужая краіна, або правінцыя Расіі, — ставяцца да гэтага дня абыякава або нават варожа і лічаць, што гэта проста фіктыўнае свята. Але для беларускага народа, я паўтараюся, 27 ліпеня — сапраўднае свята. Такія святы ёсць у кожнай дзяржавы, напрыклад у Францыі — Дзень узяцця Бастыліі 14 ліпеня, у Амерыцы — 4 ліпеня, калі была абвешчана Дэкларацыя незалежнасці Амерыканскіх Штатаў ад англійскага караля.

У гісторыі беларускага народа ёсць і іншыя даты, якія мы павінны памятаць. У першую чаргу гэта 25 сакавіка 1918 года, калі ў дні пад'ёму нацыянальна-вызваленчага руху была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Можа, тады таксама не ўвесь народ адзначаў ці заўважаў тую дату, бо частка народа была пад немцамі, частку Беларусі трымалі ў сваіх руках расійскія бальшавікі, але гэта таксама быў дзень, які вызначыў незалежнасць нашага народа. І 27 ліпеня з'яўляецца як бы працягам 25 сакавіка.

Але абодва гэтыя святы стануць па-сапраўднаму народнымі толькі тады, калі ўсе ўладныя структуры нашай дзяржавы будуць адносіцца да іх як да сапраўдных нацыянальных свят, толькі тады можна чакаць такіх жа адносін і ад усяго насельніцтва.

На жаль, апошнія падзеі ў нашай рэспубліцы ставяць пад знак запытання Дзень незалежнасці, бо Дагавор аб калектыўнай бяспецы, які падпісалі некалькі дзяржаў былога Савецкага Саюза, усё ж такі здымае частку суверэнітэту. Фактычна Беларусь ужо не ўсе свае крокі ў знешняй палітыцы можа праводзіць, карыстаючыся толькі сваімі інтарэсамі. Як казалі нашы продкі, барані Божа, каб нашы хлопцы клалі галовы за інтарэсы іншых дзяржаў. Я хацеў бы, каб наш урад, які будзе ці які ёсць, вёў больш незалежную палітыку. А жыхарам Беларусі перш за ўсё я пажадаў бы спакою на нашай зямлі, знікнення розных процістаянняў, якія могуць перайсці ў канфрантацыю, і, канешне, паляпшэння дабрабыту. Цяжка сказаць, калі гэта будзе, але трэба быць аптымістамі, трэба добра працаваць і не спадзявацца на нейкіх там сяброў, суседзяў ці нават саюзнікаў.

Перш за ўсё сам беларускі народ павінен паклапаціцца пра свой дабрабыт, але і ўрад абавязаны даць яму такую магчымасць.

Са святам, дарагія суайчыннікі!

### Да ўвагі чытачоў

Наступны нумар "Народнай газеты", як і ўсіх астатніх выданняў, выйдзе, на жаль, толькі 29 ліпеня. Зноў тая ж сітуацыя: у святочныя і выхадныя дні не працуюць ні сувязісты, ні друкары. Рэдакцыі не могуць плаціць па падвоеных тарыфах, а вырашыць гэта пытанне на дзяржаўным узроўні, як і раней, не ўдалося.

Заўважым, калі б гэта залежала толькі ад калектыву "Народнай газеты", то нашы чытачы атрымлівалі б "духоўны хлеб" штодзённа.

**Рэдакцыя "Народнай газеты".**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Аглядальнік "Народнай газеты" Павел СТАСЕВІЧ перадае з Вашынгтона*

# У Белым доме сустракалі гасцінна

Сустракалі беларусаў у Белым доме гасцінна: ганаровая варта, марскія пехацінцы, сцягі, сусветная тэле,-радыёпрэса... — усё, словам, па пратаколу.

"Зялёная хваля", а працей кажучы, некаторыя выключэнні з тутэйшых правілаў былі зроблены і для журналістаў. Скажу, напрыклад, што нашаму знакамітаму фотамайстру Мікалаю Амельчанку, які тут робіць кадры для гісторыі, дазволілі здымаць Б.Клінтана ў яго рабочым кабінеце спакойна, як кажуць, тэт-а-тэт, на пару з пастаяннай фотакарэспандэнткай Белага дома, калі ўся сусветная прэса стаяла за дзвярыма.

У Авальным кабінеце Белага дома, дзе пачыналася сустрэча, пабываў і прадстаўнік "Народнай газеты".

Сама ж сустрэча ў вярхах доўжылася больш за гадзіну. Пасля яе С.Шушкевіч выйшаў да журналістаў і адказаў на два пытанні. Галоўнай тэмай сустрэчы, паводле яго слоў, былі амерыкана-беларускія адносіны і іх умацаванне. Адзначыў С.Шушкевіч і тое, што добрыя адносіны з Расіяй адпавядаюць інтарэсам і ЗША. Прэзідэнт Клінтан атрымаў запрашэнне наведаць Беларусь.

Дадам: у якасці падарунка Біл Клінтан атрымаў ад беларускага боку знакамітыя вырабы нашага знакамітага шклозавода "Нёман" — набор крышталю. І нават сталовы прыбор у выглядзе Белага дома...

Пачалі хутка расколвацца і члены нашай афіцыйнай дэлегацыі. Мы, журналісты, "бяром" нашых даражэнькіх і ў шыкоўных пакоях гасцявой рэзідэнцыі "Блэйр хаўс", і проста на вуліцы. Прычым паасобку і цэлымі групамі.

Твары ў нашых старшынь пастаянных камісій парламента і міністраў прасветленыя і большай часткай задаволеныя. Адчуваецца, што амерыканскі "вецер" гатовы дзьмуць у беларускія "ветразі" — і ў палітычных, і ў ваенных, і ў эканамічных пытаннях.

Падпісаны шэраг канкрэтных дакументаў. Найперш адзначу Сумесную дэкларацыю аб адносінах паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларусь.

Сталі рэальнасцю, па словах міністра абароны П.Казлоўскага, і тыя 59 мільёнаў долараў, якія ЗША выдзяляюць Беларусі на ўсе мерапрыемствы, звязаныя з "ачышчэннем" ад ядзернай зброі, — такое пагадненне ўчора ў Пентагоне таксама падпісана. Дарэчы, сустракалі беларусаў там таксама як трэба — нават з салютам.

У.Гаркун быў аптымістычны наконт сельскай гаспадаркі: каля 150000 тон збожжа і соевых атрымае Беларусь у парадку гуманітарнай дапамогі.

Ёсць і шэраг іншых рэальных дамоўленасцей. Пра ўсе гаварыць не буду, бо па нашай завядзёнцы добрыя праекты часцяком ператвараюцца ў пражэкты. Пагаварылі пра тое, што можна хутка памацаць у дзяржаўнай кішэні, — пра грошы, прычым не "драўляныя" і "зайчыкаў", а пра тыя канверсуемыя, якіх нам так не хапае, каб хоць трохі стаць на ногі.

— Валюта будзе, — упэўнена сказаў аглядальніку "Народнай газеты" ўчора старшыня Нацыянальнага банка С.Багданкевіч. — І дапамога немалая...

Па яго словах, ён усімі дзелавымі сустрэчамі вельмі задаволены. Дасягнута, напрыклад, дамоўленасць, што 28 ліпеня на нарадзе выканаўчых дырэктараў Міжнароднага валютнага фонду будзе станоўча вырашана пытанне аб прадастаўленні Беларусі льготных крэдытаў для "аздараўлення" плацежнага балансу. Прычым крэдыты будуць прадастаўлены без указання канкрэтных мэт, і мы можам выкарыстоўваць іх у сваіх інтарэсах. Атрымана запэўненне з боку міністэрства фінансаў ЗША аб шырокай падтрымцы па ўсяму спектру грашова-крэдытнай палітыкі.

Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Э.Шыркоўскі сустрэўся з калегамі ФБР і ЦРУ. Ішоў абмен вопытам: кантакты будуць наладжвацца.

У пятніцу рабочая праграма візіту падыходзіла да завяршэння.

Аб астатнім — у наступных нумарах.

# Сумесная дэкларацыя аб адносінах паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларусь

На сустрэчы ў Белым доме прэзідэнт Злучаных Штатаў Біл Клінтан і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч пагадзіліся з неабходнасцю паскорыць устанаўленне цесных і ўзаемавыгадных адносін на ўсіх узроўнях паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Рэспублікай Беларусь. Старшыня Шушкевіч быў першым з кіраўнікоў новых незалежных дзяржаў былога Савецкага Саюза, які наведаў Вашынгтон для афіцыйнай сустрэчы з прэзідэнтам Клінтанам. Сустрэча прадэманстравала тое значэнне, якое Злучаныя Штаты Амерыкі і Рэспубліка Беларусь надаюць пашырэнню і паглыбленню іх адносін.

У выніку своечасовай ратыфікацыі Дагавора па стратэгічных наступальных узбраеннях і далучэння да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў якасці бяз'ядзернай дзяржавы Рэспубліка Беларусь прадэманстравала ўсяму свету сваю рашучасць праводзіць адказны і паслядоўны курс. Гэта з'яўляецца значным укладам ва ўмацаванне глабальнай бяспекі і захаванне міру.

Здача на захоўванне Злучаным Штатам акта аб далучэнні да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў час візіту Старшыні Шушкевіча пацвярджае намер Рэспублікі Беларусь будаваць мірнае будучае. У падтрымку гэтых дальнабачных крокаў Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь падпісалі ў час візіту пагадненні, паводле якіх Злучаныя Штаты акажуць адпаведную дапамогу Рэспубліцы Беларусь. Пагадненні датычацца дапамогі на пачатковым этапе ў адносінах да кантролю за экспартам, канверсіі і аднаўлення навакольнага асяроддзя на ваенных базах, асабліва на базах ракетных войск стратэгічнага прызначэння, і канверсіі абаронных прадпрыемстваў для грамадзянскага выкарыстання.

Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь падкрэслілі сваю рашучасць актыўна супрацоўнічаць у справе прадухілення распаўсюджвання зброі масавага паражэння і звязаных з ёй тэхналогій. Злучаныя Штаты віталі вывад у мінулым годзе ўсёй тактычнай ядзернай зброі з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Рэспубліка Беларусь зноў пацвердзіла сваё абавязацельства завяршыць вывад усёй ядзернай зброі, прадугледжанай умовамі Дагавора па стратэгічных наступальных узбраеннях (СНУ-1) і Лісабонскага пратакола. Злучаныя Штаты выказалі сваю поўную падтрымку намеру Рэспублікі Беларусь дабівацца пастаяннага бяз'ядзернага статусу, а таксама яе намеру праводзіць знешнюю палітыку нейтралітэту.

Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь далі абяцанне супрацоўнічаць у пабудове трывалага дэмакратычнага міру ў Еўропе. Міжнароднай бяспекі нельга дасягнуць пры намаганнях асобных дзяржаў авалодаць усё ўзрастаючай колькасцю ўзбраенняў. Бяспека, хутчэй, павінна грунтавацца на скарочаных узроўнях узбраенняў усіх дзяржаў і на шматбаковых абавязацельствах абараняць падзяляемыя прынцыпы, асабліва дэмакратыю, непарушнасць граніц і тэрытарыяльную цэласнасць і мірнае вырашэнне спрэчак. Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь пагадзіліся з тым, што сумесная дзейнасць у шматбаковых арганізацыях, такіх, як Нарада па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і Савет паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва, з'яўляецца важным сродкам для дасягнення гэтых мэт і аховы гэтых каштоўнасцей. Рэспубліка Беларусь і Злучаныя Штаты зноў пацвярджаюць свае абавязацельствы строга выконваць умовы Дагавора па скарачэнню звычайных узбраенняў у Еўропе. Злучаныя Штаты заўсёды гатовы прадаставіць Рэспубліцы Беларусь тэхнічную дапамогу, парады і веды для выканання ёю такіх абавязацельстваў.

Прэзідэнт Клінтан і Старшыня Шушкевіч пагадзіліся, што ўрады іх краін павінны працягваць працаваць разам і супольна з іншымі зацікаўленымі ўрадамі ў пошуках шляхоў мінімізацыі затрат на ажыццяўленне гэтых абавязацельстваў.

Прэзідэнт Клінтан і Старшыня Шушкевіч пагадзіліся з тым, што незалежнасць Рэспублікі Беларусь і яе прыхільнасць да дэмакратыі і рыначных эканамічных рэформ могуць унесці значны ўклад ва ўмацаванне стабільнасці ў рэгіёне Еўропы, які перажыў вялікую трагедыю і вялікія перамены. Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь падкрэслілі свой намер супрацоўнічаць як мага шырэй для дасягнення гэтай мэты. Прэзідэнт і Старшыня дамовіліся захоўваць і развіваць тыя каштоўнасці, якія аб'ядноўваюць дэмакратычную садружнасць дзяржаў, уключаючы свабодныя і справядлівыя выбары, свабоду эміграцыі, вяршэнства закона і павагу да правоў чалавека, уключаючы свабоду слова і свабоду прэсы, а таксама павагу да правоў людзей, якія належаць да меншасцей.

Злучаныя Штаты поўнасцю падтрымалі абавязацельства Рэспублікі Беларусь сцвярджаць сваю незалежнасць у поўнай адпаведнасці з гэтымі прынцыпамі і яе намаганні па пабудове справядлівага і стабільнага грамадства, у якім гарантуюцца асноўныя свабоды для ўсіх народаў.

Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь выказалі сваю рашучасць развіваць каштоўнасці эканамічнай свабоды, без якой дэмакратыя і дабрабыт не могуць мець поспеху. Рэспубліка Беларусь зноў пацвердзіла сваю гатоўнасць будаваць рыначную эканоміку шляхам правядзення адпаведнай палітыкі макраэканамічнай стабілізацыі і структурных рэформ для садзейнічання развіццю рынку, аздараўленню і пад'ёму эканомікі і ствараць умовы, якія дазволяць замежным інвестарам ажыццяўляць дапамогу ў мадэрнізацыі і перабудове яе гаспадаркі. Злучаныя Штаты будуць дапамагаць Рэспубліцы Беларусь у заахвочванні эканамічнай стабілізацыі, прыватызацыі, рэарганізацыі, свабоднага гандлю і замежных інвестыцый. Абодва бакі прызнаюць важнасць паляпшэння доступу сваіх фірм на рынкі, а таксама неабходнасць забяспечыць эканамічны прагрэс і паглыбіць эканамічнае супрацоўніцтва.

Прэзідэнт Клінтан і Старшыня Шушкевіч дамовіліся аб сумесных дзеяннях па ўхіленню ўсіх "штучных бар'ераў для двухбаковага гандлю і інвестыцый і аб неабходнасці завяршэння падрыхтоўкі да падпісання пагаднення аб узаемнай абароне інвестыцый. Яны таксама пагадзіліся аб мэтазгоднасці заключэння пагадненняў аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання і ўхілення ад падаткаабкладання ў адносінах да падаткаў на даходы і маёмасць.

Злучаныя Штаты зноў пацвердзілі свой намер прадаставіць дапамогу ў галіне сельскай гаспадаркі, харчавання, медыцыны, фінансавай і грашовай палітыкі і іншых галінах для садзейнічання правядзенню рэформ у Рэспубліцы Беларусь. Злучаныя Штаты выказалі намер дапамагаць ураду Рэспублікі Беларусь у пераадоленні разбуральных вынікаў ядзернай аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь гатовы таксама пашыраць свае адносіны ў галіне навукі, энергетыкі, культуры, мастацтва, адукацыі, права, турызму, абмену студэнтамі.

Дамовіўшыся аб супрацоўніцтве ў дасягненні ўзаемных палітычных і эканамічных інтарэсаў, а таксама ўзаемных інтарэсаў у галіне бяспекі, Злучаныя Штаты і Рэспубліка Беларусь заклалі фундамент трывалых і рознабаковых сувязей.

*Постановление Совета Министров Республики Беларусь*

# Об очередных мерах по социальной защите населения

В связи с продолжающимся ростом цен на товары и тарифов на услуги и в целях поддержания жизненного уровня населения Совет Министров Республики Беларусь **постановляет:**

1. Установить с 1 августа 1993 г. минимальную заработную плату в размере 9000 рублей в месяц, а тарифную ставку первого разряда — 11000 рублей.

2. Ввести с 1 августа 1993 г. для работников предприятий, учреждений и организаций, финансируемых из бюджета, коэффициенты повышения ставок заработной платы и должностных окладов, рассчитанных в соответствии с распределением их по разрядам и коэффициентам Единой тарифной сетки:

в размере 1,2 — для тарифицируемых с 1-го по 3-й разряд;

в размере 1,1 — для тарифицируемых с 4-го по 7-й разряд,

установив заработную плату работников с тарифным коэффициентом 1,0 в размере 13200 рублей в месяц (без учета коэффициентов за характер и условия труда, утверждаемых Государственным комитетом по труду и социальной защите населения).

3. Для уменьшения разрыва в оплате труда различных категорий работников установить межразрядные тарифные коэффициенты с 8-го по 21-й разряд — 1,09 и с 21-го по 28-й разряд — 1,08 вместо утвержденных распоряжением Совета Министров Республики Беларусь от 21 января 1993 г. номер 46р соответственно 1,1 и 1,09.

Государственному комитету по труду и социальной защите населения внести соответствующие изменения в Единую тарифную сетку.

4. В целях недопущения необоснованного разрыва в оплате труда руководителей и работников хозрасчетных предприятий рекомендовать министерствам и профсоюзам Беларуси, Белорусской конфедерации промышленников и предпринимателей, министерствам и ведомствам, предприятиям и организациям внести изменения в отраслевые тарифные соглашения, контракты и коллективные договоры, имея в виду ограничение оплаты труда руководителей таким образом, чтобы она не превышала среднюю заработную плату по предприятиям и организациям более чем в 2,5 раза.

5. Установить с 1 августа 1993 г. за счет средств фонда социальной защиты населения доплату к минимальным размерам пенсий по возрасту, за выслугу лет, по инвалидности, в случае потери кормильца, в том числе к пенсиям при неполном стаже работы, выплачиваемым органами социального обеспечения в размере 40 процентов минимальной пенсии по возрасту. Указанная доплата производится независимо от надбавок к пенсиям и их повышений, установленных действующим законодательством.

При перерасчете пенсий с 1 августа 1993 г. и корректировке заработка при назначении пенсий в соответствии с Положением о порядке перерасчета пенсий и корректировки заработка, определяемого при назначении пенсий, утвержденным постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 7 октября 1992 г. номер 606 (СП Республики Беларусь, 1992 г. номер 28, ст. 523), применять вместо среднемесячной заработной платы рабочих и служащих за 1-й квартал 1993 г. среднюю заработную плату рабочих и служащих за июнь 1993 г.

6. Для усиления социальной политики Государственному комитету по труду и социальной защите населения, Министерству здравоохранения, Министерству социального обеспечения, Госкомстату совместно с Федерацией профсоюзов Беларуси по согласованию с облисполкомами и Минским горисполкомом в двухмесячный срок разработать и утвердить критерии отнесения граждан к малоимущим группам населения, а также определить механизм выявления, учета малоимущих граждан, находящихся по объективным причинам за чертой бедности, и оказания им помощи.

Фонду социальной защиты населения предусмотреть использование части средств фонда для оказания помощи малоимущим гражданам.

7. Министерствам и ведомствам, исполкомам местных Советов народных депутатов, руководителям предприятий, учреждений и организаций, финансируемых из бюджета, обеспечить перерасчет ставок заработной платы и окладов работников в соответствии с установленной настоящим постановлением ставкой первого разряда и коэффициентами Единой тарифной сетки.

8. Министерству социального обеспечения, Министерству обороны, Министерству внутренних дел, Комитету государственной безопасности и Главному управлению пограничных войск при Совете Министров Республики Беларусь с 1 августа 1993 г. произвести перерасчет пенсий исходя из нового размера минимальной заработной платы и с учетом изменения тарифных коэффициентов, Государственному комитету по труду и социальной защите населения совместно с Министерством финансов пересмотреть размеры пособий, а руководителям высших, средних и профессионально-технических учебных заведений — размеры государственных стипендий.

9. Установить, что назначенные до 1 августа 1993 г. пособия по безработице и стипендии гражданам, проходящим профессиональную подготовку, повышающим квалификацию по направлению Государственной службы занятости, увеличиваются с 1 августа 1993 г. в 1,4 раза.

10. В целях поддержки финансового состояния предприятий и усиления социальной защиты трудовых коллективов комиссии, образованной распоряжением Совета Министров Республики Беларусь от 9 апреля 1993 г. номер 279р, при необходимости повторно вернуться к рассмотрению экономического положения предприятий, оказавшихся в особо тяжелом финансовом положении, и принять меры по предоставлению им льгот по налогам на прибыль, добавленную стоимость и по акцизам.

Министерству финансов совместно с Государственным комитетом по промышленности и межотраслевым производствам, другими заинтересованными министерствами и ведомствами с учетом предложений Белорусской конфедерации промышленников и предпринимателей и профсоюзов Беларуси проанализировать по итогам первого полугодия 1993 г. влияние налоговой системы на социально-экономическое развитие предприятий и внести в сентябре 1993 г. соответствующие предложения в Совет Министров Республики Беларусь для представления их Верховному Совету Республики Беларусь.

11. Продолжить государственное регулирование розничных цен на продовольственные товары первой необходимости: отдельные виды хлеба и хлебобулочных изделий, молоко и кисломолочную продукцию, а также тарифов на жилищно-коммунальные услуги.

12. Госкомстату обеспечить расчет индекса цен, характеризующего изменение стоимости потребительской корзины по отношению к ценам августа 1993 г., и его публикацию в периодической печати.

13. Признать утратившими силу пункты 1, 2, 7 и 8 постановления Совета Министров Республики Беларусь от 17 мая 1993 г. номер 324 "О минимальной заработной плате и отдельных социальных выплатах" (СП Республики Беларусь, 1993 г. номер 14, ст. 269), пункт 2 постановления Совета Министров Республики Беларусь от 16 декабря 1992 г. номер 756 "О некоторых вопросах перерасчета пенсий" (СП Республики Беларусь, 1992 г. номер 35, ст. 642), а также постановление Совета Министров Республики Беларусь от 18 июня 1993 г. номер 402 "О дополнительных мерах по социальной защите пенсионеров" (СП Республики Беларусь, 1993 г. номер 18, ст. 335).

**Председатель Совета Министров Республики Беларусь**
**В.КЕБИЧ.**

**Управляющий делами Совета Министров Республики Беларусь**
**Н.КАВКО.**

22 июля 1993 г., г.Минск, № 497.

*Хочаце — верце, хочаце — не*

# Знакі задыяка абяцаюць...

... **АВЕНУ** (21 сакавіка — 20 красавіка) — мноства непрадбачаных выпадковасцей. Нечаканасці могуць здарыцца на працы, дома, у адносінах з блізкімі сябрамі. Але не засмучайцеся, прыемных сюрпрызаў будзе значна больш, чым непрыемных. Дзяўчаты і адзінокія жанчыны, напэўна, атрымаюць прапанову выйсці замуж.

Спрыяльны дзень — 29 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 27 ліпеня і 1 жніўня.

... **ЦЯЛЬЦУ** (21 красавіка — 21 мая) — сямейныя радасці. Магчыма нараджэнне дзіцяці ў тых, хто яго чакае. Усе дамашнія праблемы шчасліва вырашацца. Чакайце весткі ад далёкага сваяка або яго прыезду.

Спрыяльны дзень — 26 ліпеня. Неспрыяльны — 29-е.

... **БЛІЗНЯТАМ** (22 мая — 21 чэрвеня) — праблемы на службе. Калі вы не знойдзеце ўзаемапаразумення з начальствам, то не выключана змена месца працы. Магчымы нечаканыя фінансавыя паступленні. Ва ўсіх жыццёвых сітуацыях шукайце падтрымку ў блізкага чалавека.

Спрыяльныя дні — 26 і 30 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 31 ліпеня.

...**РАКУ** (22 чэрвеня — 22 ліпеня) — нечаканы поспех у бізнесе. Здзелка, якую вы лічылі безнадзейнай, прынясе вялікі прыбытак. Не выключаны канфлікт з законам. Новыя магчымасці крута змяніць жыццё запатрабуюць трывалых сямейных адносін.

Спрыяльныя дні — 26 і 31 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 29-е.

...**ІЛЬВУ** (23 ліпеня — 23 жніўня) —пераадоленне чарговай жыццёвай мяжы. Час азірнуцца на тое, што вы ўжо зрабілі, і сур'ёзна задумацца над тым, што чакае ў недалёкай будучыні. З'явіцца патрэба сустрэцца са старымі і вернымі сябрамі. Старайцеся не ісці на канфлікт з любімым чалавекам, нават калі ён не мае рацыі.

Спрыяльныя дні — 26 і 29 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 31-е.

...**ДЗЕВЕ** (24 жніўня — 23 верасня) — буйны поспех. Гэта могуць быць крутое ўзыходжанне па службовай лесвіцы або шлюбная прапанова, удалая фінансавая здзелка або стварэнне твора мастацтва. Усё гэта аднолькава вам па сілах. Але не трэба забываць старую прымаўку: за двума зайцамі пагонішся...

Спрыяльныя дні — 26 ліпеня і 1 жніўня. Неспрыяльны дзень — 29 ліпеня.

... **ШАЛЯМ** (24 верасня — 22 кастрычніка) —ператварэнне ў жыццё даўніх планаў. Вас чакае трыумф вашых жыццёвых ідэй. Уласцівая вам памяркоўнасць пры ажыццяўленні рызыкоўных учынкаў дасць добрыя вынікі. Сям'я і работа запатрабуюць новых сіл. Трэба для сябе вызначыць, што больш важнае.

Спрыяльны дзень — 29 ліпеня. Неспрыяльны — 31-е.

... **СКАРПІЁНУ** (23 кастрычніка — 21 лістапада) — новыя перспектывы. Мноства заманлівых прапаноў паставіць вас перад тэрміновым вызначэннем самага галоўнага ў жыцці на дадзены момант. Работа запатрабуе мноства сіл. Магчымы кароткія, але знясільваючыя камандзіроўкі. Не выключаецца нечаканы разрыў з блізкім чалавекам.

Спрыяльныя дні — 26 і 29 ліпеня. Неспрыяльны — 31-е.

...**СТРАЛЬЦУ** (22 лістапада — 21 снежня) — моцны творчы пад'ём. Тое, што раней давалася цаной неймаверных намаганняў, прыйдзе само сабой. Сфера прыкладання сіл запатрабуе пашырэння. Не выключаны змена працы або стварэнне ўласнага прадпрыемства. Згасаючыя пачуцці запалаюць з новай сілай.

Спрыяльны дзень — 30 ліпеня. Неспрыяльны — 27-е.

...**КАЗЯРОГУ** (22 снежня — 20 студзеня) — няўхільны рух да поспеху ва ўсіх жыццёвых сферах. У вас многае атрымаецца лёгка, але ўзнікнуць пэўныя праблемы ў сям'і, якія вырашыць пакуль што будзе немагчыма. Няхай гэта не выбівае вас з каляіны, у свой час усё зменіцца да лепшага.

Спрыяльныя дні — 26 і 30 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 29-е.

...**ВАДАЛЕЮ** (21 студзеня — 19 лютага) — некаторы спад жыццёвай актыўнасці, Лепш пазбегнуць сур'ёзных пачынанняў. Час адпачынку ад мітусні жыцця. Лес або ціхі пляж — тое, што вам патрэбна. Адзінокія людзі могуць сустрэць спадарожніка жыцця.

Спрыяльны дзень — 30 ліпеня. Неспрыяльныя дні — 31 ліпеня і 1 жніўня.

...**РЫБАМ** (20 лютага — 20 сакавіка) — адносна спакойны час. Ніякіх сур'ёзных узрушэнняў не чакаецца, між іншым як і асаблівых дасягненняў. Прысвяціце сябе самаўдасканаленню. Займіцеся спортам. Фінансы дазваляюць вам зрабіць прыемнае любімаму чалавеку.

Спрыяльныя дні — 26 і 30 ліпеня. Неспрыяльны дзень — 29-е.



## Надвор'е

Сёння днём па рэспубліцы чакаюцца часам дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне — 14—16, Брэсце — 15—17, Мінску — 16—18, Гомелі — 20—22, Магілёве, Віцебску — 22—24 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі па рэспубліцы, днём 26-га на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра 25-га ноччу — 8—13, днём — 20—25, 26-га ноччу — 12—17, днём — 17—22 градусы цяпла.

## Астранамічны каляндар — 24.07

Узыход і заход сонца: Мінск — 5.08, 21.22; Віцебск — 4.52, 21.18; Магілёў — 4.58, 21.11; Гомель — 5.04, 21.00; Гродна — 5.26, 21.34; Брэст — 5.33, 21.29.

Даўжыня дня ў Мінску — 16.14.

Маладзік 24 ліпеня.



# Кроссворд

**И.Терешков, г.Минск**

**По горизонтали:** 1. Гидротехническое сооружение. 4. Парнокопытное животное семейства оленей на Алтае. 7. Скульптор, один из создателей мемориала "Брестская крепость". 8. Опера Д.Верди. 10. Низкий голос у мальчиков. 14. Должностное лицо в охотничьих хозяйствах. 16. Трагедия У.Шекспира. 17. Режущий инструмент для чистовой обработки отверстий. 18. Украинский народный танец. 21. Горячекатаная проволока обычно круглого сечения диаметром 5—10 мм. 22. Мемориальное сооружение в виде граненого каменного столба. 23. Скачкообразное движение лошади. 24. В металлообработке — операция листовой штамповки. 25. Город и порт в Северной Италии. 27. Опера Д.Пуччини. 30. Французский композитор 19—20 вв. 31. Живопись по сырой штукатурке красками. 32. Прочное стеклообразное покрытие, наносимое на металлический предмет. 33. Деталь гусеничного хода машины. 37. Денежная единица Бирмы. 38. Международный вспомогательный язык. 39. Украинский писатель, автор романа "Ошибка Оноре де Бальзака". 40. Наиболее решительный момент наступательных действий войск.

**По вертикали:** 1. Часть корпуса струнных музыкальных инструментов. 2. Китайский духовой язычковый музыкальный инструмент. 3. Быстрый, подвижный темп в музыке. 4. В римской мифологии богиня, покровительница ремесел и искусств. 5. Водный поток, текущий в естественном русле. 6. Раскаленная жидкая или вязкая масса, извергаемая вулканами. 8. Верхняя долгополая распашная одежда из сукна у русских крестьян до 20 века. 9. Обработка некоторых видов тканей паром или горячей водой. 11. Мобильность активов банков, предприятий, фирм, обеспечивающая своевременную оплату их обязательств. 12. Река на Северном Кавказе. 13. Трагически известный город в Киевской области. 15. Цветные огни во время увеселений, торжеств. 18. Черный янтарь, разновидность каменного угля. 19. Безворсовый двусторонний ковер. 20. Высушенная питательная ткань кокосового ореха. 24. Простейшая грузоподъемная машина. 26. Увлечение, запальчивость. 28. Кратковременная потеря сознания, слабость. 29. Историческая область Западной Грузии. 34. Остров в Средиземном море. 35. Основной орган по управлению войсками. 36. Помутнение воздуха из-за наличия в нем пыли, дыма. 37. Река, приток Волги.

**Ответы на кроссворд, опубликованный 17.07.93 г.**

**По горизонтали:** 1. Плинтус. 5. Кумжа. 6. Лидер. 8. Сом. 9. Крот. 10. Окоп. 12. Накидка. 15. Траур. 18. Ито. 20. Барон. 23. Пейн. 24. Бриз. 25. Избач. 27. Язь. 29. Цукат. 32. Епархия. 35. Арка. 36. Такт. 38. Аул. 40. Иприт. 41. Ересь. 42. Потрава.

**По вертикали:** 1. Пума. 2. Ивасюк. 3. Талмуд. 4. Сидр. 5. Кромка. 7. Ректор. 9. Кант. 11. Пион. 12. Наречие. 13. Ист. 14. Амбиция. 16. Роз. 17. Упа. 18. Иня. 19. Обь. 21. Азу. 22. Ока. 25. Иена. 26. Беркли. 28. Зур. 30. Кубань. 31. Тент. 33. Апатит. 34.. Холера. 37. Креп. 39. Вена.

